# СУДОВАЯ СПРАВА ГОДА,

## ЯКАЯ ПАКУЛЬ ЯШЧЭ НЯ СКОНЧАНА

СПРАВА гэта даволі вядомая і ў мясцовай прэсе аб ёй ужо шмат пісалася. Часьцей за іншыя газэты выступалі «Гродненские новости», якія зараз прыпынілі сваё існаваньне і інфармацыя аб гэтым працэсе практычна перастала паступаць да чытачоў.

Нагадаю, што справа датычыць аграпрамысловага калгаса-камбіната «Прагрэс» Гарадзенскага раёна. Таго самага калгаса, ў які ў застойныя часы, як казалі ў нас у школе, прыводзілі нават мурынаў глядзець, каб вучыліся весьці гаспадарку.

Падчас сьледзтва ўстаноўлена, што галоўны бухгалтар калгаса Бабіч Леанарда Юльянаўна без рашэньня праўленьня, выкарыстаўшы адсутнасьць старшыні праўленьня калгаса А. І. Дубко, арганізавала незаконнае пералічэньне 150 тысяч рублёў на рахунак існаваўшага ў Горадні Цэнтра нетрадыцыйных мэтадаў лячэньня.

Пры аналагічных абставінах, таксама без рашэньня праўленьня, выкарыстаўшы чыстыя бланкі плацёжных даручэньняў з подпісам Дубко А. І., зноў-такі незаконна пералічыла 585 інвалютных рублёў на рахунак указанага вышэй Цэнтра.

На працягу кастрычніка-сьнежня 1990 года аплачвала расходы цэнтра на рэкламу. Усяго на гэта было пералічана 8 тысяч рублёў.

У лютым 1991 года, выкарыстаўшы чысты бланк плацёжных даручэньняў з подпісам А. І. Дубко, без яго ведама і рашэньня праўленьня, незаконна пералічыла 130 тысяч даляраў ЗША швэйцарскай фірме «Ампэкс».

Дарэчы, 583 інвалютных рублі былі вернуты на рахунак калгаса, 150 тысяч разышліся на патрэбы Цэнтра, а 130 тысяч даляраў так і ня вернуты калгасу фірмай па той простай прычыне, што ніякіх кантрактаў яна з калгасам не заключала.

Нагадаю толькі, што пералічвала гэтыя грошы бухгалтарка з тае нагоды, што нейкі «цэліцель-кастапраў» С. М. Крэстоў, які кіраваў Цэнтрам, вылячыў яе ад усіх хваробаў без таблетак і гэтым самым дапамог знайсьці ў сабе сілы павярнуцца да Бога..

Дарэчы, старшыня калгаса падчас гэтых апэрацый знаходзіўся ў службовых камандзіроўках, да таго ж ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР.

Пазьней, калі Леанарда Юльянаўна будзе звольнена з працы і выключана з калгаса, на старонках газэты «Гродненские новости» пачне распавядаць аб тым, што Крэстоў С. М. чалавек з «Божым дарам», вылячыўшы яе, дапамог па-іншаму паглядзець на семнаццаць гадоў працы побач са сваім старшынёй А. І. Дубко. Леанарда Юльянаўна распавядала шмат аб якіх афёрах, безгаспадарчасьці, карысьлівасьці свайго былога кіраўніка, да таго ж гэроя Сацыялістычнай працы.

ЗА старшыню вядомага калгаса ўступілася «Белорусская нива», у якой уласны карэспандэнт па Гарадзенскай вобласьці дэталёва прааналізаваў справу, праўда, амаль не ўзгадаў прозьвішча старшыні калгаса. Затое «Гродненские новости» атрымалі сваё. Дарэчы, вельмі цікаўнай у гэтым артыкуле была інфармацыя аб самім С. М. Крэстове, з-за якога па сутнасьці і пачаліся дзівосныя справы ў калгасе. Аўтар артыкула прывёў неверагодныя дадзеныя аб кастаправе з Расеі, якога, дарэчы, у наш горад прывёз ніхто іншы, як сам першы сакратар абкама, вядомы ў вобласьці чалавек — таварыш Сямёнаў Уладзімір Міхайлавіч. Дык вось кім аказаўся «цэліцель-кастапраў» (так увесь час называе яго ўласны карэспандэнт «Белорусской нивы»): Крэстой С. М. знаходзіцца ў розшуку пракуратурай г. Масквы за ўхіленьне ад уплаты алімэнтаў, за зьдзяйсьненьне жульніцтва, і ўрэшце на яго аб 'яўлены ўсесаюзны розшук. Акрамя таго двойчы лячыўся ў псіхічным шпіталі, дыягназ: «псіхапатыя ўзбуджальнага круга».

Дапоўню толькі, што на гэтага чалавека і Гарадзенскай пракуратурай была распачата крымінальная справа.

Урэшце рэшт мой калега заключае, што «Удар расчётливо нанесли по председателю колхоза А. Дубко...».

Гэтую ноту праз пэўны час падтрымлівае вабласная газэта «Гродненская правда», аўтар якой таксама адназначна перакананы ў высокай маральнасьці старшыні калгаса: «И никакими наветами, туманными намёками, предположениями и прямой клеветой дела и честь этого человека не опорочить. Правда сильнее лжи...».

Следзтва зацягнулася аж на адзінаццаць месяцаў. Тым ня менш, забягаючы трошкі наперад, паведамлю, што прыгаворам Кастрычніцкага раённага суда г. Горадні Леанарда Юльянаўна Бабіч была апраўдана.

Аднак, азначэньнем судзейскай калегіі па крымінальных справах Гарадзенскага вабласнога суда ад 17 верасьня 1992 года прыгавор суда ў адносінах да Бабіч Л. Ю. у частцы апраўданьня яе па эпізоду пералічэньня 150 тысяч рублёў і 130 тысяч даляраў ЗША і захаваньня ґрамадзянскага спазыску аграпрамысловаму калгасу-камбінату «Прагрэс» — адменены.

Больш таго. Пры паўторным разглядзе справы нарсудом Кастрычніцкага раёна на думку суда, маецца дастаткова падставаў прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці Брагава Ю. А. і Дубко А. І., у адносінах да якіх крымінальныя справы прыпынены 6 красавіка 1992 года.

У дзеяньнях А. І. Дубко прагледжваюцца асобныя прыкметы злачынства, якія пацягнулі за сабой страты для калгаса, на сягоньняшні дзень яны склалі 61.900. 000 рублёў...

У ТРЭЦІМ томе справы падшыта брашура на выдатнай, магчыма замежнай паперы, выдадзеная ў Менску ў некалькіх колерах тыражом 500.000 пад назвай «Духовное и телесное врачевание». Найперш хочацца заўважыць, што на Беларусі нават Нобэльскіх лаўрэатаў не выдаюць такім тыражом. Па-другое, шмат хто сягоньня разумее колькі гэта можа каштаваць ці нават каштавала год раней. І нарэшце ў гэтай самай брашуры нароўні з «цэліцелямі-кастаправамі» на трох мовах (расейскай, ангельскай і, здаецца, нямецкай), прычым з партрэтам, прадстаўляецца, як чалавек, надзелены прыродным дарам, здольнасьцю вылечваць людзей праз духоўныя зносіны,— жанчына-падзьвіжніца, якая пераадолела магутныя выпрабаваньні на шчырасьць свайго веравызнаньня да Бога на сумленнасьць і трываласьць духа... Бабіч Леанарда Юльянаўна.

А з другога боку: заслужаны чалавек, якога ведаюць па ўсёй краіне, у гаспадарцы якога часам і ім самім без узгадненьня з рашэньням праўленьня калгаса недакладнай датай прымаюцца недапушчальныя рашэньні, будуецца незапланаваная фабрыка. Ці робяцца справы, якія не падпадаюць ні пад якую звычайную крытыку на калгасным сходзе.

Спадзяюся, што суд, нягледзячы на зацягваньне гэтае справы, усё ж здолее знайсьці і даказаць ісьціну. Зрэшты, гэта проста яго абавязак.

Аднак думаецца зараз зусім не аб гэтай справе і аб гэтых людзях. Ужо каторы раз у падобных выпадках зьнікаюць грошы працоўных людзей, якія, вядома, даюцца ім заўсёды толькі сваім мазалём. І хто ў дадзеным выпадку верне іх калгасьнікам, хто падлічыць тыя страты, што панесла гаспадарка толькі за мінулы год з улікам інфляцыі? Ня ведаю, хто падумае аб працоўных людзях, увогуле ці хто аб іх калі-небудзь думаў...

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

**P. S. Аб далейшым ходзе гэтае судовае справы «Пагоня» будзе паведамляць.**

# А ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ УСЁ Ж РАСЬЦЕ

**14 студзеня адбылася каардынацыйная нарада праваахоўных органаў Кастрычніцкага раёна Горадні, на якой прысутнічала старшыня райсавета Л. Школьнік, а таксама адказныя асобы з УУС аблвыканкама і вабласной пракуратуры. Вялася размова АБ ІСНУЮЧЫХ ПРАБЛЕМАХ У СПРАВЕ БАРАЦЬБЫ З НАБЯГАЮЧЫМ валам злачыннасьці і шляхам паляпшэньня сітуацыі. Улічваючы, што балячкі ў той ці іншай меры зьяўляюцца характэрнымі для ўсіх рэгіёнаў Беларусі, мы палічылі мэтазгодным выдзеліць найбольш вострыя пытаньні і данесьці іх да чытачоў.**

**М. ГАНЧАР — НАЧАЛЬНІК РАУС.**

**Калі 1991 год быў параўнаўча не благім, то ў мінулым рост злачыннасьці па лініі крымінальнага вышуку павялічыўся на 28,3%, а колькасьць забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджаньняў узрасла на чвэрць. Парушэньні законаў з боку падлеткаў узрасьлі на 21%. Вельмі непакоіць бясьпека на дарогах — колькасьць ахвяраў узрасла.**

**П. УРУБЛЕЎСКІ — ПРАКУРОР РАЁНА.**

**У мінулым годзе не раскрыты 3 забойствы. У АБЭЗ няма значных спраў — па барацьбе з ценявым бізнэсам — у асноўным дробязь. Нават крымінальную справу супраць «тытунёвага караля» У. Багдановіча ўзбудзіла менавіта пракуратура, хаця ў яе значна менш магчымасьцяў для выкрыцьця эканамічных злачынстваў, чым у БЭЗ.**

**Злачыннасьць маладзее: сярод непаўналетніх правапарушальнікаў узрасла колькасьць школьнікаў, а уклад ПТВ паменшыўся. Павялічылася праблема беспрацоўя сярод моладзі.**

**Ёсьць і станоўчыя прыклады. Так, непаўналетняга, якога ніхто не браў нідзе, уладкавалі на мэблевую фабрыку праз суд, а калі больш дакладна — пытаньне вырашылася яшчэ да суда, бо адміністрацыя прадпрыемства зарынтавалася хутка.**

**Лібералізм суда не адпавядае сучаснаму моманту, бо толькі 24% злачынцаў адпраўляюцца на «зону», а ў адносінах да астатніх выносяцца прыгаворы, не зьвязаныя з пазбаўленьнем волі.**

**А. ПРАКОПІК — СТАРШЫНЯ РАЁННАГА СУДА.**

**Закон аморфны і не пасьпявае за зьмяненьнямі ў грамадзтве. Напрыклад, у жніўні мінулага года народным судом было прынята рашэньне аб канфіскацыі кантрабандных каляровых мэталаў, якія камэрсанты з краін Балтыі меліся вывезьці з Беларусі. Дзіўна, што «мэталічная» справа доўга блукала па інстанцыях трэцяй улады — дайшла да Вярхоўнага Суда і толькі зусім нядаўна, у студзені, вярнулася на выкананьне ў раённы суд. Каму гэта выгодна?..**

**Прадугледжаныя законам тэрміны разгляду спраў не вытрымліваюцца, бо суды завалены імі. 63 справы не разгледжаны яшчэ з мінулага года. Частка спраў (узнаўленьне па працы і г. д.) наогул не прымаюцца да вытворчасьці — няма каму іх разглядаць. Народных заседачоў не дазваца, бо кожны кіраўнік умее цяпер цаніць працоўны час, а бюджэт наш бедны.**

**П. НАДУДЗІК — НАЧАЛЬНІК ДАІ — зноў скардзіўся на закон, які занадта лібэральны да парушальнікаў правілаў дарожнага руху. Скажам, нейкі грамадзянін Лапанік на працягу года двойчы затрыманы за рулём «пад мухай» і згодна з законам быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці. Атрымаўшы суровы прыгавор суда — ажно тры гады пазбаўленьня волі... умоўна — ён праз тыдзень, без правоў, якіх пазбавілі яшчэ пры першым затрыманьні, зноў быў злоўлены, праўда, за кіраваньнем транспартам без пасьведчаньня. Вынік? 200 рублёў штрафу...**

**С. ТРАФІМЧЫК, НАЧАЛЬНІК АДДЗЯЛЕНЬНЯ МІЛІЦЫІ ПА РЫНКУ, казаў пра цяжкасьці з кадрамі, бо толькі за год 5 супрацоўнікаў звольнены (ці то даюць такіх, ці то праца цяжкая?), і наогул наяўнага асабовага складу недастаткова, каб падтрымліваць на торжышчы належны парадак. Спадар Трафімчык таксама запэўніў, што нягледзячы ні на што, усе парушальнікі дысцыпліны і надалей будуць звальняцца, бо разбэшчанасьці ён не пацерпіць.**

**Яшчэ яго хвалюе правапарадак на будучым рынкавым пляцы ў пас. Паўднёвым, які будуецца амаль сярод лесу і дзе вельмі ўтульна будуць адчуваць сябе... рэкеціры.**

**В. ГЕРЛІх — СУПРАЦОЎНІК ОБЭЗ. З КРУ аблвыканкама скарочана 20 рэвізораў. Хто будзе праводзіць рэвізіі ў камэрцыйных структурах, дзе фінінсавых парушэньняў хапае? А яны, гэтыя структуры, растуць, як грыбы пасьля дажджу.**

**Дакуль сьледчыя будуць баяцца даводзіць справу да суда, калі ёсьць сумненьні? Вядома, што яны засьцерагаюцца ад апраўдальных прыгавораў, бо ў такім выпадку сьледчы панясе пакараньне.**

**Ю. ЯКАЎЧЫЦ — СТАРШЫ ЎЧАСТКОВЫ. Ва ўрочышчы «Аўгустова» працягваецца самабудаваньне: на зьмену мэталічным гаражам «прыйшлі» капітальныя — з блокаў і цэглы. Няхай будуюць. Ці паказаць, што ёсьць улада?**

**На Фолюшы вайскоўцы займаюцца продажам боеприпасаў падлеткам. Кошт — бутэлька.**

**Ю. РАДЗЮКЕВІЧ — НАМЕСЬНІК НАЧАЛЬНІКА УУС. Уся «пагода» ў «губэрні» робіцца менавіта тут, ў Горадні, у т. л. і на знакамітым рынку. Сёньня з 65 «вабласных» разбояў — 41 гарадзенскі; адпаведна і з рабаўніцтвам — 147 з 289... Было выказана сумненьне наконт лічбы 115 — колькасьці злачынстваў, ўчыненых на рынку за год. А калі б ўсе пацярпелыя заяўлялі? За колькі дзён гадавая «норма» была б перакрыта?**

**АД АЎТАРА. Кажуць, стан злачыннасьці непарыўна зьвязаны са станам эканомікі, бо яны як злучаныя сасуды: вытворчасьць памяншаецца, а злачыннасьць наадварот расьце. Нарэшце, здаецца, спад у прамысловасьці пераадолены. А злачыннасьць пойдзе уніз? Час пакажа.**

**Падрыхтаваў І. ПРЫВАРОЦКІ.**

## СКРАЛІ МЕХ З ПУСТЫМІ БУТЭЛЬКАМІ

Перад航навагоднія прыгатаваньні, як вядома, патрабуюць шмат намаганьняў, каб на хатнім сьвяточным стале нічога не бракавала. У Горадні кожны па-рознаму рыхтуецца да сьвятаў. Адныя гадзінамі стаялі ў чэргах, каб набыць кавалак мяса і сыра, а другія вырашылі экспрапрыіраваць тое, што ёсьць у першых.

Так, перад Новым годам у раёне вуліцы Ажэшкі былі абрабаваны адразу ў некалькіх дамах падвалы. З аднаго пацягнулі грыбочкі, вяндлінку, з другога бульбачку, саленьні, а ў тым, дзе акрамя пустых пляшак нічога не было, панесьлі мех з пустымі бутэлькамі...

**Г. Т.**

## НАС АБЯЦАЮЦЬ БАРАНІЦЬ

Кіраўніцтва аб 'яднаньня прафсаюзаў Гарадзенскай вобласьці наладзіла прэс-канфэрэнцыю, на якую былі запрошаны журналісты гарадзенскіх газэт. Прысутныя заслухалі справаздачны даклад старшыні абкаму прафсаюзаў і выступы супрацоўнікаў аддзелаў.

З боку прэсы было ўсяго два пытаньні. Цікава, што карэспандэнтка шматтыражнай газэты «Рытм» зазначыла: у іхнім аб 'яднаньні «Хваля» рабочыя і службоўцы пакідаюць прафсаюз масава — цэлымі цэхамі. А ў адказ прагучала — у справаздачы вашага прафсаюзнага старшыні ўсё наадварот — шэрагі членаў прафсаюза павялічваюцца.

**Г. ПРЫСУТНЫ.**

ВОЙСКА

# ПРЫСЯГАЕ 1-Я БЕЛАРУСКАЯ БРЫГАДА

31 сьнежня 1992 года. Гэта быў дзень, калі ўпершыню ў гісторыі Беларусі войска прымала прысягу на вернасьць свайму народу і сваёй Бацькаўшчыне. Пагадзіся, шаноўны чытач, што гэта ня меней значная падзея, чым пошукі выйсьця з эканамічнага крызісу або прыватызацыя зямлі. Нарэшце, адзін з галоўных атрыбутаў дзяржаўнасьці — войска стала ўсё ж беларускім...

У той апошні марозны дзень мінулага года на плацы першай беларускай брыгады ў Горадні сабралася мноства людзей. Зьехаліся бацькі, браты, жонкі, сябры. І ўсе не адкуль-небудзь, а з Ашмянаў, Бярозы, Гомлі, Віцебску, Менску... усе з Беларусі. Усе жаўнеры ў нашым войску — беларусы. Не для кога з іх не было цяжкасьцю чытаць тэкст беларускай прысягі, ніхто з іх не адмаўляўся гэтага рабіць, і ўсе яны зараз ведаюць, якую Радзіму будуць ахоўваць. Кожнаму з іх гарантаваны двухтыднёвы адпачынак, і амаль кожная маці можа пабачыць свайго сына, калі сэрца яе стоміцца без яго. Акцэнтую на гэтым таму, што некалі, адбываўшы службу ў Савецкай Арміі, трапіў у Нямеччыну, адкуль два гады не давялося прыехаць на Радзіму, пабачыць бацькоў і сяброў, нават земляко — і тых не было.

На пагонах нашых жаўнераў няма болей літар — СА, а яшчэ праз які год яны стануць насіць сапраўдную беларускую форму. Камандзір брыгады апавядаў, што хлопцы з Беларусі ні чым ня горшыя жаўнеры за тых, што былі з ўсяго Саюза. Праўда, адразу відаць хто з іх сядзеў за рулём трактара, працаваў на прадпрыемствах, а хто займаўся камэрцыяй. Аднак, стала значна меней праблемаў з наркаманамі, аматарамі самаволкі, дзедаўшчыны. Хоць усе гэтыя атрыбуты Савецкай Арміі пакуль не выкаранены.

Першая беларуская брыгада ў Горадні па сваёй структуры значна адрозьніваецца ад тых, якія былі ў Савецкай Арміі і зараз яна стала ўзорам для іншых нацыянальных войскаў, якія фарміруюцца ў краінах былога Саюза.

Сярод афіцэраў першай беларускай брыгады большасьць беларусаў, аднак ёсьць рускія, украінцы і іншыя. Усім ім давалася магчымасьць зьезьдзіць да родных на Радзіму і абмеркаваць у сям'і свой выбар. Большасьць такіх афіцэраў абрала месцам службы беларускае войска.

У размовах з афіцэрамі і прапаршчыкамі не раз падкрэсьлівалася, што ўрад Беларусі дбае аб іх больш і лепей, чым у любой з іншых рэспублік. Асабліва задаволены вайскоўцы, якія самі паходзяць не з Беларусі тым, што ім і іхнім сем'ям адразу даюць грамадзянства Беларусі...

Як бы што не думалі і не казалі, прысяга прынята і кожнаму зразумела, да чаго яна абавязвае.

Адстаяўшы гадзіны дзьве на плацу, пад гукі вайсковага аркестра, калі сьвяточным маршам праходзіла ўся брыгада, я адчуваў, што гэта быў сапраўды незвычайны дзень. А на КПП, калі выходзіў з часьці, мне ўсьміхаўся малады беларускі жаўнер, і я павіншаваў яго са сьвятам.

**М. КАРНЕВІЧ.**
**Фота У. ВЫДЭРКІ.**







УГОДКІ

## ДЗЯРЖАВА ЗАСТАЛАСЯ ЎБАКУ

Кожная дзяржава мае свае славутыя імёны й даты. На жаль, былыя кадры дзяржаўных установаў пакуль што не навучыліся і не прывыклі адзначаць даты незалежнай Беларусі, асабліва зьвязаныя з вызваленчымі рухамі. Усьведамленьне сябе грамадзянамі Беларусі даецца ім цяжка, да таго ж насупераҡ іх палітычным упадабеньням. Цяжка і прафэсіянальным гісторыкам рыхтаваць грунт для такіх імпрэз. Шмат хто з іх па-ранейшаму марыць аб велічы КПСС і СССР, распрацоўвае сцэнар захапляючага фарсу іх рэанімацыі з заключным актам «Суд у Віскулях» над тымі, што прыдумалі ўсю гэтую незалежнасьць. Таму вось хоць і кажуць, што сёньня час прафэсіяналаў, не даводзіцца спадзявацца, што адзначэньне 130 угодкаў паўстаньня К. Каліноўскага будзе наладжана на дзяржаўным узроўні.

Каб у новай Беларусі прачыналася новае бачаньне сваёй гісторыі, па-ранейшаму даводзіцца рупіцца грамадзкасьці.

Ну а тыя, што плачуць па СССР, што лепшага скажаш, чым славуты паэт: «Что за диво? Издалека... на ловлю счастья и чинов заброшен к нам по воле рока!..»

Віск і лаянка ўчарашніх паноў жыцьця, а сёньняшніх палітычных банкрутаў не павінны і не змогуць засланіць ад нас веліч апосталаў беларускага вызваленьня, якімі былі К. Каліноўскі і яго паплечнікі.

Разумныя людзі ў дзяржаўных установах заўсёды былі і ёсьць. Таму прапанова таварыства «Паходня» наладзіць урачыстасьць з нагоды 130 угодкаў паўстаньня 1863—1864 г.г. і 155-годдзя з дня нараджэньня К. Каліноўскага была падтрымана ў аддзеле культуры гарвыканкама. Факультэт культуры даў залу.

Урачыстасьць адбылася. Няхай на аматарскім узроўні, затое ад сэрца і з ахвотай займаліся ёю ўдзельнікі.

Паведамленьні і даклады дапаўняў гэраічнымі сьпевамі пахаднянскі хор. З удзячнасьцю сустрэлі згоду Ансамбля старажытнай музыкі Гарадзенскай капэлы выступіць на імпрэзе. Атрымалася так, як атрымалася. Незадаволеных нібыта не было відаць.

Гістарычны матэрыял падавалі сябры «Паходні», маладыя навукоўцы В. Руднік і У. Хільмановіч, усе жадаючыя. Асобныя выступы перамяжаліся сьпевамі хору з удзелам усёй залы.

Ці магло быць лепей? Пэўна. Асабліва, каб падобныя пасяджаньні рыхтавалі не аматары ў неслужбовы час, а прафэсійныя рэжысёры і сцэнарысты. Але гэта ў нас яшчэ наперадзе. Жыве Беларусь і жыцьме!

**А. Д.**

# УСЕ ШЛЯХІ

## Зацемкі са Сходу

Прывітаў удзельнікаў Сходу старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі сп. Ст. Шушкевіч. Ён сказаў, што «Сход — пацьверджаньне таго, што беларускасьць жыве і будзе жыць...». Ён аднак заклікаў не сьпяшацца, каб не зруйнаваць тых здабыткаў, якія ўжо маем. «Я перакананы, што з нашым беларускім характарам, з нашым беларускім гэапалітычным становішчам мы зможам заняць дастойнае месца ў Эўропе і сусьветнай супольнасьці... Сувэрэннасьць усталёўваецца цяжка, але пасьлядоўна. Я спадзяюся, што ваш наступны сход адбудзецца ў значна больш сувэрэннай Беларусі».

Намесьнік старшыні Саўміна сп. М. Дзямчук запэўніў, што «Урад Беларусі ў меры сваіх магчымасьцяў будзе дапамагаць беларусам замежжа».

Прэзідэнт Згуртаваньня «Бацькаўшчына» пісьменьнік Васіль Быкаў сказаў у сваёй прамове між іншым наступнае: «Пакуль, на жаль, нацыянальная самасьвядомасьць, яе ўзровень, яе рухаючая сіла ў нас недараўнальна буксуе і не рухае грамадзтва... Нацыянальная ідэя даўно стала гарантам прагрэсу для сотняў нацый сьвету... Іншыя грамадзкія ідэі напрыканцы 20 стагоддзя ўшчэнт збанкрутавалі... Але іншага выйсьця ў нас няма. Мы самі павінны здабыць для сябе й розум, і сілы, і добрыя магчымасьці».

Выступленьне сп. З. Пазьняка шырока друкавалася, таму ня будзем яго паўтараць.

Прывітаньне Форуму ад вайскоўцаў перадаў міністр абароны Рэспублікі Беларусь гэнэрал-палкоўнік Казлоўскі. Прыемнае зьдзіўленьне ў прысутных выклікала тое, што ён выступаў па-беларуску. Міністр сьцьвердзіў, што не зважаючы на выпадкі карупцыі ў войску, 99,99% усіх вайскоўцаў — сумленныя людзі, і «Узброеныя Сілы выконваюць і выканаюць задачы, якія пастаўлены перад імі Вярхоўным Саветам і Урадам Рэспублікі». Ён таксама (у адказ на цыдулку) сказаў, што Міністэрства абароны не прасьледуе сябраў БЗВ...

Старшыня ТБМ сп. Н. Гілевіч з горычу гаварыў пра зварот акадэмікаў-беларусаў з Сібірскага аддзяленьня АН Расеі, які з гатоўнасьцю надрукавала «Советская Белоруссия» і ў якім яны патрабуюць дзяржаўнасьці на Беларусі расейскай мовы.

Акадэмік Р. Гарэцкі прывёў дадзеныя аб тым, што сярэдзіна Эўропы знаходзіцца на Беларусі ў 2 км на захад ад вёскі Чыжаўка (на рацэ Бярэзіна). Каб не дэнацыяналізацыя беларусаў Віленшчыны, Смаленшчыны, Пскоўшчыны і Браншчыны, нас бы сёньня было 25—30 млн... Гэта нашае апошняе Адраджэньне. Мова ўжо ў Чырвонай кнізе, а за 70 гадоў у СССР зьнікла 50 моў. Адраджаць трэба адначасова мову, эканоміку, палітыку.

Вельмі ўразнастаіў выступы старшыня клюба «Спадчына» сп. А. Белы. Напачатку ён паскардзіўся на «дзяржаву-мачаху», бо яму не дазваляюць увасобіць 10 замоўленых «у шляхетных мэталах» помнікаў, у тым ліку — у выглядзе помнікаў — крыж Эўфрасіньні Полацкай і Пагоню. Потым паскардзіўся на няўвагу да сябе ў справе асабістай калекцыі з 500 мэдалёў (коштам звыш 1 млн. даляраў), на падставе якой ён прапануе стварыць нацыянальную валюту. Ён таксама зачытаў прывітаньне ад легітымнага, паводле яго, Урада БНР у эміграцыі.

Цікавасьць выклікала й прамова старшыні БГКТ у Польшчы сп. А. Баршчэўскага. Ён запярэчыў сп. сп. Быкаву, Пазьняку. Маўляў, трэба абмяркоўваць адно нацыянальныя моманты, а не палітычныя, але сам жа сябе пазьней і абверг, бо нацыянальнае і ёсьць палітыка. Потым ён зрабіў закіды гэнэралу Казлоўскаму, які тры дні таму выступаў у беларускім пасольстве ў Варшаве і ўсё — па-расейску, хоць, аказалася, умее і па-наску гаварыць. Далей, нібы ў «Голасе Радзімы» вайсковы міністр сцьвердзіў, што «беларуская армія павінна быць інтэрнацыянальнай». У адказ ад сп. Казлоўскага паступіла цыдулка наступнага зьместу: «Войска — шматнацыянальнае, а не інтэрнацыянальнае. Гэта — розьніца».

МЕНСК

## СТАЛІЧНЫЯ «ЗУБРЫ»

**У лёгкаатлетычным манэжы СКА, што ва Уруччы, распачала падрыхтоўку да ўдзелу ў турніры, якія адбудзецца ў ЗША ў сакавіку-красавіку, менская спартовая каманда па амэрыканскім футболе «Зубры». У мінулым годзе хлопцы сталі ўладальнікамі кубка СНД. Дарэчы, на фінальнай сустрэчы з «Богатырями» з Масквы, якая адбылася 27 верасьня, прысутнічаў пасол ЗША з Беларусі сп. Суорц. Адной з асноўных праблемаў зьяўляецца тое, што каманда дагэтуль не ўкамплектаваная цалкам. А таму яе членам можа стаць любы спартовец. Адно «але» — гулец павінен мець росту 190 см і вагі каля 100 кілаграмаў.**

## «НЕФЕРТИТИ»

**Перад новым годам у палацы культуры чыгуначнікаў адбыўся конкурс прыгажосьці пад такой назвай. Адметнасьцю яго можна лічыць тое, што ў напружанай цішыні зацямнёнай залы ўдзельніцы выконвалі эратычны танец, прычым на некаторых нават адсутнічалі пэўныя часткі традыцыйнага жаночага купальнага строю. Пасьля фінальнага паседжаньня кампэтэнтнага журы менскай «Нефертити-92» стала манекеншчыца Вікторыя Пыльнікава.**

## ПАГРОЗА БЕЗПРАЦОЎЯ

**Выканкам Мінгарсавету зацьвердзіў Праграму садзейнічаньня занятасьці й сацыяльнай абароны насельніцтва Менска на 1993 год. Прагноз адназначны: набліжаецца канчатковае разарэньне стратных прадпрыемстваў і зварочваньне галінаў, дзе затраты на вытворчасьць перавышаюць памеры попыту. Чакаецца, што на свабодным рынку працы (а прасьцей — безпрацоўных) у Менску ў 1993 годзе зьявіцца амаль 140 тысячаў чалавек. Больш за 12 працэнтаў сярод іх складуць маладыя спэцыялісты. Але ім, здаецца, няма пакуль што падстаў для хваляваньня. Як сказаў адзін вядомы бізнэсмэн: безпрацоўны малады чалавек гэта той, хто ня хоча, альбо ня можа працаваць. Проста ім трэба больш актыўна шукаць свайго месца ў жыцьці.**

## ПАРЫЖ — МЕНСК — НОВЫ-ЁРК

**У дзелавых колах Захаду ідзе абмеркаваньне супэр-праэкту аўтамагістралі Парыж — Новы-Ёрк агульнай працягласьцю 18 тысячаў кіламэтраў, якая, як мяркуюць, пройдзе праз Гамбург, Менск, Маскву, Сібір, па тунэлі, альбо мосьце праз Берынгаў праліў — на Аляску і далей. Ініцыятарам праэкту выступіў нямецкі прадпрыймальнік Аляксандр Кутатэладзе. Прыкладны кошт магістралі фантастычны — 350 мільярдаў даляраў. Але дарога сама павінна аплаціць затраты на яе будаўніцтва (увёў некалькі дзясяткаў кіламэтраў і зарабляй на іх грошы для далейшай пракладкі). Гэты праэкт выклікаў вялікую зацікаўленасьць у бізнэсмэнаў, бо ўклад грошай у будаўніцтва й эксплуатацыю дарогаў традыцыйна лічыцца вельмі выгодным відам інвэстыцый. На заканчэньне варта дадаць, што ўчастак магістралі Менск-Масква плануецца пабудаваць за тры гады, а пачатак будаўніцтва мяркуецца пачаць у наступным годзе.**

## НУМАРЫ З «ПАГОНЯЙ»

**Менчукі з прыемнасьцю адзначылі зьяўленьне на вуліцах сталіцы аўтамабіляў з новымі нумарамі, якія нясуць нашую дзяржаўную адметнасьць. На белым тле яны маюць чатыры чырвоныя лічбы й дзьве літары. Пасярэдзіне замест працяжніка — герб «Пагоня». Новыя нумары робяцца ў Гомелі. Яны алюмініевыя, пакрытыя адбіваючай сьвятло фарбай і ня маюць адметных літараў славянскага альфабэту. Першыя нумары, якія прыйшлі ў Менск, серыі «МІ». Каштуюць яны 1900 рублёў. Дзяржаўныя нумары ня будуць адрозьнівацца ад прыватных.**

**Алесь А.**

ФОНДЫ

## Калі жадаеце падтрымаць дэмакратычныя рэформы

У жніўні 1992 года ў Менску пачаў працаваць Беларускі Рэспубліканскі Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў, асноўнай мэтай якога зьяўляецца дзейнасьць, накіраваная на падтрымку дэмакратычных рэформаў у галіне мясцовага самакіраваньня, эканомікі, навукі, абароне правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Фонд — няўрадавая, непалітычная і некамэрцыйная арганізацыя, якую заснавалі дэпутаты мясцовых Саветаў, бізнэсмэны, юрысты, эканамісты, мастакі і пісьменьнікі — прадстаўнікі розных некамуністычных партыяў і рухаў.

**Фонд імкнецца стварыць падставы да аб'яднаньня інтэлектуальных магчымасьцяў грамадзтва ў справе распрацоўкі праграмы па рэфармаваньню сістэмы мясцовага самакіраваньня і яе далейшаму ўдасканаленьню, развіцьцю навукі, культуры, аховы навакольнага асяроддзя і гісторыка-культурнай спадчыны.**

**Заснавальнікі Фонду бачаць неабходнасьць усебаковай падтрымкі арганізацый і прадпрыемстваў, якія спрыяюць умацаваньню суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Значнае месца ў накірунках дзейнасьці Фонду зойме падтрымка адраджэньня традыцыяў народа, нацыянальнай культуры дабрачыннасьці і духоўнасьці.**

**Зьдзяйсьненьне ўсіх гэтых накірункаў будзе праводзіцца праз наладжваньне працасу навучаньня працаўнікоў мясцовага самакіраваньня, удасканальваньня прафэсійнай кваліфікацыі спэцыялістаў.**

**На сёньняшні дзень групай спэцыялістаў Фонду на чале з экспэртам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савету М. Сатолінай распрацавана канцэпцыя рэформы сістэмы мясцовага самакіраваньня РБ. Фонд арганізуе і фінансуе навучаньне беларускіх спэцыялістаў праз курсы, сэмінары, канфэрэнцыі і стажыроўкі ў нашай рэспубліцы, а таксама ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Эўропы.**

**Згодна Статуту ў Фонд уваходзяць індывідуальныя, калектыўныя і ганаровыя сябры.**

**Зацікаўленыя дзейнасьцю Фонду і ахвотных уступіць у яго запрашаем зьвязацца з намі праз рэдакцыю «Пагоні» альбо праз сябра Фонду Уладзіміра Хільмановіча па тэлефоне 44-20-45 у Горадні.**

**Алесь ПУГАЧОЎ.**

# У КАСЬЦЁЛЕ ТАК, У ЦАРКВЕ ГЭТАК, А Ў АЎТАПАРКУ ЯШЧЭ ГОРШ

На мінулым тыдні ў Горадні адбылася гарадзкая справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Слова з справаздачай трымаў старшыня Гарадзенскай рады ТБМ А. М. Пяткевіч. Ен зазначыў, што колькасьць энтузіястаў беларускага слова зьвялася, на жаль, да мінімуму, хоць, калі гаварыць пра работу ТБМ, значыцца гаварыць ад адраджэньні Беларусі.

Адзін з накірункаў работы ТБМ — школа. Адзначалася, што становішча ў нашым горадзе з беларускімі школамі лепшае, чым у іншых вабласных гарадах. Так з 33 гарадзкіх школак — 24 беларускія, г. зн. ужо два гады, а ў некаторых і тры, як яны пераведзены на беларускі лад навучаньня. Аднак і дагэтуль ёсьць цяжкасьці з настаўнікамі, якія на ўроку вучаць дзетак па-беларуску, а падчас перапынку гавораць з гэтымі ж дзеткамі па-расейску. Існуе і дагэтуль праблема з падручнікамі, асабліва ў трэціх класах. Амаль адсутнічаюць мастацкія кнігі на беларускай мове для дзяцей.

Яшчэ больш цяжкае становішча ў ВНУ. У сельскагаспадарчым інстытуце толькі некалькі выкладчыкаў перайшлі на беларускую мову, а ў медінстытуце практычна ніхто. Трохі лепш ва ўнівэрсітэце, аднак нават на факультэце Беларускай філалогіі і культуры ня ўсе лекцыі чытаюцца па-беларуску. Дарэчы, у выступленьнях з месца адзначалася, што рэктар унівэрсітэта Бадакоў адрапартаваў міністру адукацыі, што ўжо з красавіка справаводзтва пераведзена на беларускую мову, аднак на самай справе гэта далёка ня так. Ды і ў самога рэктара шыльда на дзьвярах напісана з памылкамі.

Толькі часткова гучаць аб'явы ў тралейбусах па-беларуску, не выконваюць пастановы гарвыканкама ў аўтобусным парку. Дагэтуль ня стала выдавацца па-беларуску вабласная газэта «Гродненская правда».

У горадзе існуюць курсы па вывучэньню беларускай мовы, аднак і тут няма прагрэсу. Намэклатура і надалей не зьбіраецца пераходзіць на дзяржаўную мову.

Пры абмеркаваньні справаздачнага даклада адзначалася шмат розных накірункаў, дзе ТБМ павінна актывізаваць сваю працу. І перш за ўсё дапамагчы з вывучэньнем роднай мовы ў беларускім войску, дзе сітуацыя, відаць, самая складаная.

Шмат казалася аб ролі касьцёла і царквы. Дарэчы, у касьцёле ўжо пэўны час праводзіцца імша па-беларуску, што ніяк не скажаш аб праваслаўнай царкве.

Некаторыя з выступаючых прапаноўвалі надалей адзіную тактыку ТБМ — жорсткі прэсінг дзяржаўнай улады, каб выконваўся Закон аб мовах.

Астатнім у абмеркаваньні справаздачы выступіў намесьнік старшыні гарвыканкама А. Мілінкевіч, у адрас якога, дарэчы, на канфэрэнцыі гучала шмат добрых слоў. Ен зазначыў, што нягледзячы на ўсе цяжкасьці, якія ў сапраўднасьці існуюць у адраджэньні беларускай мовы і спадчыны нашага народа, аптымізм яго не пакідае.

На канфэрэнцыі была абрана новая рада ТБМ. Ужо з дзевяці чалавек, а не як было ў мінулым годзе — з дваццаці, якая сама вырашыць, хто стане яе старшынёй.

Мяркуецца, што ў сакавіку ў Менску адбудзецца справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя ТБМ Беларусі.

**М. КАРНЕВІЧ.**

# ВЯДУЦЬ У МЕНСК

## беларусаў блізкага замежжа

**Першы Сход беларусаў блізкага замежжа адбыўся ў Менску напрыканцы сьнежня. З 240 запрошаных дэлегатаў прыехалі 236. У тым ліку з Польшчы — 67, Летувы — 36, Латвіі — 21, Малдовы — 17, Казахстана — 10 і г. д. З іх 128 праваслаўных, 17 каталікоў, мусульманін, па 2 вуніяты і атэісты... Дэлегаты прадстаўлялі 63 суполкі і зямляцтвы.**

Спадар Баршчэўскі выказаў пажаданьне, каб мяжа, мытня, службоўцы і іхняя уніформа ў Берасьці і Горадні былі не савецкімі, а беларускімі. Бо ў Берасьці нават сьцяг Бел-чырвона-белы зьнік, а да беларускай мовы дагэтуль тамака ставяцца насьцярожана... Ен заклікаў ад імя Сходу даслаць дабразычлівы ліст заходняй эміграцыі, якая захавала і ўручыла нам нацыянальныя герб і сьцяг, а таксама тры словы: спадарыня, спадар, спадарства... Чым больш гаворыцца пра нацменшасьці ў Польшчы, тым менш робіцца. 4 гады таму БГКТ атрымала ад дзяржавы 4 млрд. злотых, а ў 1992 годзе толькі некалькі дзесяткаў мільёнаў. Апошнім часам таксама пабольшала варожасьці да нацменшасьцяў у Польшчы, у тым ліку да беларусаў.

Багата эмоцый выклікаў у зале сп. А. Селівончык, прадпрымальнік з Сургута, які ледзьве не адзіны выступаў па-расейску. «Я — чистый белорус... В Сибири много людей, прошедших через «репрессировочные» мероприятия.. Я благодарен Ленину и Сталину за то, что предоставили, нам эту страну». З залы — «Ганьба!». З прэзідыума — «Спакойна, таварышы!». Аказалася, што сібірак займаецца праблемай радыяцыі. У яго дома 5 м/рэнтгэн, а тут — 17. («И ты за это благодарен?» — рэпліка з залы). Ен зьмерыў радыяцыю мала не па ўсёй Беларусі і перадае дакумэнты задарма сходу. Калі ён пакінуў трыбуну, з прэзідыуму паведамілі, што сп. Селівончык ахвяраваў «Бацькаўшчыне» 100 тысяч рублёў. Вось ужо сапраўды загадкавая душа ў беларуса...

Старшыня камісіі па нацыянальнай палітыцы Массавету сп. Р. Чырвонцаў заклікаў выкарыстоўваць напоўніцу інтэлект землякоў замежжа, а таксама ствараць ва ўрадах суседніх краін прабеларускае лобі.

ПАЛКОЎНІК Я. Яўменчык з Цьверы гаварыў пра тое, што большасьць афіцэраў-замежнікаў у Беларускім Войску — звыклыя вайскавікі, а трэба вяртаць на Бацькаўшчыну вайсковых навукоўцаў, якіх прадстаўляе ён сам. Гэта патрэбна дзеля таго, каб стварыць напачатку пры Акадэміі навук аддзяленьне вайсковых навук, а пры Міністэрстве абароны — цэнтр вайсковых дасьледаваньняў. Тады ў будучыні стане магчымым адчыніць у Менску Беларускую вайсковую акадэмію.

Вельмі эмацыйна выступіў старшыня Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў падпалкоўнік М. Статкевіч, выклікаўшы ў залы падтрымку.

Пасьля яго праэкт рэзалюцыі па вайсковым пытаньні зачытаў падпалкоўнік М. Суднік, які выдаваў ў Казахстане беларускую вайсковую газэту «Рокаш», а цяпер служыць на Гарадзеншчыне. У праэкце патрабуецца неадкладна зьліквідаваць на Беларусі ядзерную зброю, вывесьці расейскае войска і вытрымваць абвешчаны нейтралітэт. Войска выхоўваць не ў расейска-савецкім патрыятызме, а на беларускіх вайсковых традыцыях і паступова перавесьці яго на дзяржаўную мову. Вярнуць усіх сваіх афіцэраў дахаты і скончыць дыскрымінацыю беларускіх афіцэраў у нашым войску.

Неўзабаве папрасіў слова міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь сп. П. Краўчанка. Ен растлумачыў, што нявarta ўпісваць у рэзалюцыю пункт, які датычыць ядзернай зброі. Казахстан пакуль не імкнецца ратыфікаваць пагадненьне аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі. Пад пытаньнем і Украіна. Наш парлямэнт не сьпяшаецца з гэтым, пакуль няма поўнай упэўненасьці, што нам у гэтым сэнсе анічога не пагражае...

ДОКТАР філалогіі Л. Лыч паведаміў аб тым, што Міністэрства абароны супольна з Суворaўскім вучылішчам рыхтуюць канфэрэнцыю пад назовам «Гэнэралісімус Суворaў і наш час», прымеркаваную да дня СА і ВМФ. Навуковец нагадаў вайсковы шлях выбітнага расейскага падкаводца, які, апроч падаўленьня пугачоўскага паўстаньня, больш ніколі не ваяваў на абшарах Расеі, затое ваяваў Беларусь яшчэ за чатыры гады да падзелу Рэчы Паспалітай. Разьбіўшы войскі Т. Касьцюшкі, ён абумовіў апошні падзел, пасьля якога Вялікае Княства Літоўскае назаўжды страціла незалежнасьць...

Да канфэрэнцыі падрыхтаваны наступныя даклады: «Суворaў — геніяльны палкаводзец» (гэнэрал-палкоўнік Чавус, нам. міністра абароны), «Суворaў і Беларусь (! — С. А.)» (дырэктар Кобрынскага музэя Суворaва), «Суворaўская навука перамагаць і прафэсійная падрыхтоўка абаронцаў Рэспублікі Беларусь (!)». Прыцягнулі да «патрыятычнай» акцыі і саміх суворaўцаў, даўшы ім тэмы для дакладаў накшталт «Жыцьцё і дзейнасьць гэнэралісімуса Суворaва — варты прыклад для пераймaньня», «Суворaўцы на службе айчыне».

Др Лыч выказаўся за тое, каб неадкладна зьмяніць назву кадэцкай вучэльні, а саму канфэрэнцыю правесьці як выязную — у Расеі. Дэлегаты горача падтрымалі яго.

НЕМАГЧЫМА пазнаёміць чытача са зьместам усіх выступленьняў, якіх былі дзесяткі. Гаварылі беларусы з Польшчы, Заходняй Украіны, Летувы, з розных гарадоў Расеі, з Якутыі і Сярэдняй Азіі. Шмат давялося пачуць цікавага. Дэлегат з Рыгі, напрыклад, сказаў, што калі на Беларусі ня будуць змагацца за родную мову, беларусы замежжа вымушаны будуць зьвярнуцца па дапамогу ў ААН... Не было на сцэне дзяржаўнага сьцяга, а Пагоню сплялі з саломкі народныя майстры, гэта стварала досыць камэрную атмасфэру. Аднак тым жа часам Форум меў і паважны афіцыйны характар, пра што сьведчыць удзел у ім дзяржаўных кіраўнікоў Беларусі. Сход удаўся яшчэ й таму, што яго ўдзельнікі адчулі згуртаванасьць, убачылі ня толькі свой агульны клопат аб Бацькаўшчыне, але пераканаліся і ў сваёй патрэбе ёй.

Сходам былі прыняты наступныя звароты: Да народу Беларусі (згуртавацца ў імя стварэньня вольнай заможнай Бацькаўшчыны), Да беларусаў сьвету (з мэтай паведаміць аб маючым адбыцца ўлетку Першым Сусьветным Зьезьдзе беларусаў), Да Вярхоўнага Савету (з патрабаваньнем скасаваць Згуртаваньню падаткі, што зроблена нават для Фонду Рэрыха), Да парлямэнтаў і ўрадаў суседніх краін (з просьбай падтрымваць беларусаў), а таксама да Парлямэнту і Ураду (дапамагаць беларусам дыяспары, а таксама кіравацца ў вайсковых пытаньнях нацыянальнымі інтарэсамі).

Невядома, ці летні Зьезд зноўку адбудзецца ў Доме літаратараў, ці Згуртаваньне нарэшце атрымае свой Беларускі дом...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

